



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

6 ліпеня 2018 года №27 (1210)


## У Вілейцы вызначылі, што прыходзіць у краму са сваімі пакетамі – гэта не сорамна, а крута



старонка 5



## Як у сакральнай лясной кальварыі на Астравеччыне зладзілі фэст

старонка 18

## У Маладзечне паказалі аматарскі фільм пра яўрэйскую культуру ў беларускім мястэчку



старонка 21

# «Зразумела, я хацеў перамагчы»

## Вадзім Авіжыч з Ашмянаў заваяваў Гран-пры «Адной зямлі» ў Вілейцы

старонка 20

Фота Аляксандра МАНЦЗВІЧА.



ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Да Дня горада ўладкавалі некалькі пляцовак

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанцы атрымалі да святочных дат падарунак – некалькі дзіцячых пляцовак.

Іх паставілі ў мікрараёне Парашкі, у 11-м мікрараёне і ў парку Перамогі.

На Парашках і ва Усходнім на пляцоўках размешчаныя спартыўныя трэнажоры.

У парку гэта дзіцячы комплекс, уваход у які бясплатны.

## Трэцяя частка месячнай нормы ападкаў выпала за суткі

ВАЛОЖЫН

Як перадае БелТА, у вялікія выходныя амаль па ўсёй краіне прайшлі дажджы. Больш за ўсё выпала ападкаў менавіта на Валожыншчыне – 33% ад месячнай нормы.

Моцныя дажджы былі таксама ў Вілейцы.

## Работнікі падатковай інспекцыі навялі парадак у спаленай вёсцы

МАЛАДЗЕЧНА

Суботнік правялі напярэдадні Дня Вызвалення.

Работнікі інспекцыі па падатках і зборах прыбралі тэрыторыю на месцы спаленай у вайну вёскі Сакаўшчына.

Пакасілі траву, падфарбавалі помнік, усклалі кветкі.

Работнікі інспекцыі заўважылі перад 9 Мая, што помнік недагледжаны. Вырашылі прыбраць яго да наступнага свята.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Астраўцы пачынаецца трэці семестр

АСТРАВЕЦ

Трэці працоўны семестр на Усебеларускай моладзевай будоўлі стартуе 11 ліпеня, паведамілі БелТА ў Рэспубліканскім штабе студэнцкіх атрадаў.

Першыя будаўнічыя атрады прыбылі на ўсебеларускую моладзевую будоўлю ў Астравец 4 ліпеня. Працу зводнага беларуска-расійскага студэнцкага атрада Саюзнай дзяржавы, у складзе якога будуць працаваць больш за 350 чалавек, плануецца арганізаваць да 24 жніўня ўключна. Працоўныя будні ў маладых людзей ужо пачаліся. Ім давяраюць выконваць электра-і цепламантажныя работы, геадэзічную здымку, агульнабудаўнічыя і аддзелачныя работы, – адзначылі ў штабе.

Статус Усебеларускай моладзевай будоўлі аб'ектаў Беларускай АЭС прысвоены ўказам «Аб моладзевых будоўлях» ад 10 сакавіка 2014 года.

За чатыры працоўныя семестры тут адпрацавалі 142 лінейныя студэнцкія будаўнічыя атрады агульнай колькасцю 1880 чалавек.

**Паводле БелТА.**



Фота забяспечанае Максімам ШУХНАВЫМ.

# Віляйчане збіраюць подпісы, каб улады добраўпарадкавалі тратуары і бардзюры

ВІЛЕЙКА

**На 4 ліпеня петыцыю падпісалі 124 чалавекі. Зварот накіруюць на наступным тыдні.**

**Тэкст петыцыі:**

«Калектыўны зварот
Выказваем сваю глыбокую занепакоенасць станам тратуараў у горадзе Вілейцы. Жыхарам і гасцям нашага горада даводзіцца мець справу са шматлікімі ямкамі на тратуарах, разбітай пліткай, разбітымі бардзюрамі, адсутнасцю заездаў для вазкоў на бардзюрах, што стварае велізарныя нязручнасці для людзей.

Па вуліцы Чапаева, побач з сярэдняй школай №1, плітку на тратуары апошнім разам мянялі яшчэ ў савецкія часы, людзі абыходзяць яе па зялёнай зоне. Па вуліцы Талстога, у прыватным сектары, па вуліцах Астроўскага і Шубіна стан тратуараў вымушае людзей ісці па праезнай частцы дарогі, што стварае небяспечныя сітуацыі ў дарожным руху. Па вуліцы Маркава вялікімі часткамі ўвогуле адсутнічае асфальтавае пакрыццё тратуараў.

Дрэннае пакрыццё тратуараў з'яўляецца чыннікам пашкоджання абутку, дзіцячых вазкоў, а таксама павялічвае траўманебяспечнасць.

Таксама хочам нагадаць, што, згодна з Артыкулам 18.38 КаАП РБ – Парушэнне правілаў утрымання дарог, вуліц, чыгуначных пераездаў, тэхнічных сродкаў арганізацыі дарожнага руху і іншых дарожных збудаванняў у бяспечным для руху стане або непрыняцце мер для своечасовай забароны або абмежавання руху асобай, адказнай за іх утрыманне, – цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад 4 да 20 базавых велічынь».

На падставе вышэйзгаданага звяртаемся з просьбай:

1. Прывесці ў належны стан пазначаныя, а таксама ўсе астатнія тратуары, бардзюры горада Вілейкі».

**Аддзел інфармацыі.**

## Адбылася прэзентацыя першага нумара альманаха Kreva inkognita

СМАРГОНЬ

**Прэзентацыя адбылася 25 чэрвеня ў мінскай культурніцкай прасторы «Тартак» у межах культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!».**

Гасцей прэзентацыі віталі сябры рэдкалегіі і аўтары альманаха, прадстаўнікі фонду «Крэўскі замак», у тым ліку археолаг, кіраўнік работ **Алег Дзярновіч**. На імпрэзе прысутнічалі як сёлетнія валанцёры, так і мецэнаты.

Археалагічны летнік, які ладзіць фонд «Крэўскі замак» сумесна з Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі Беларусі, пройдзе сёлета ад 4 да 18 ліпеня. Ахвяраванні, на якія будуць праводзіць раскопкі сёлета, збіраюць праз прыватных асоб. Мецэнаты змогуць у знак падзякі атрымаць асобнікі альманаха KREVA INCOGNITA.

Альманах – аўтаномнае друкаванае выданне мясцовага дабрачыннага фонду «Крэўскі замак», якое плануюць выдаваць штогод. У навукова-папулярным выданні размешчаныя вынікі археалагічных раскопак у Крэве, аналіз стану і ходу рэстаўрацыі ды інтэрпрэтацыі спадчыны Крэўскага замка, апісанне і прапановы па захаванні адметных аб'ектаў крэўскай зямлі, нарысы краязнаўцаў. Рэдакцыя альманаха прымае матэрыялы для друку круглы год.

**Вольга СЯМАШКА.**

## Далучайцеся да археалагічных раскопак у Крэве

СМАРГОНЬ

**Працы працягнуцца ад 4 да 18 ліпеня. Далучыцца можна ў любы дзень і на любы прамежак часу.**

Кантактная асоба: **Андрусь Шулаеў**, кіраўнік летніка, тэл. 8 (033) **632-71-65.**

Кіраўнік прац: **Алег Дзярновіч**, археолаг.

Пражыванне: намётавы гарадок на тэрыторыі аграсядзібы.

Харчаванне бясплатнае. Фармат: агульнае гатаванне ежы са штодзённым дзяжурствам.

У Крэве ёсць лазня.

Працы будуць праводзіць на аб'екце Крэўскае гарадзішча XI-XIV стагоддзяў.

Паралельна будзе праведзеная этнаграфічная экспедыцыя. Для ахвотных далучыцца на дзень неабходна папярэдне ўзгадніць гэта з кіраўніком летніка.

Не забудзьце ўзяць спальнік, кубак, лыжку, відэлец, талерку, лекі, сродкі гігіены.

Намётамі забяспечым.



Летнік у Крэве ў мінулыя гады.

Вітаюцца фотарэпартажы з летніка і відэастрымы. Зусім выдатна, калі хтосьці зможа прывезці дрон і зняць раскопы з вышыні.

**Вольга СЯМАШКА.**
**Фота аўтара.**

# Развіваць сваю справу можна і ў вёсцы

**Андрэй Васілеўскі з вёскі Дзярэчын Капыльскага раёна пачаў свой бізнес з куплі шасці свіней. За 12 гадоў працы на сябе ён адкрыў СТА і кафэ. У планах – будаўніцтва лазні, басейна і крамы.**




Андрэй Васілеўскі.

Вёска Дзярэчын далёка ад райцэнтраў: 20 кіламетраў да Капыля, 35 – да Слуцка, 50 – да Салігорска. У ёй жыве каля 80 чалавек. Ні клуба, ні крамы няма, транспарт у райцэнтр не ходзіць. Моладзь з'язджае, старыя ціха дажываюць свой век.

**Андрэй Васілеўскі пасля школы скончыў ПТВ па спецыяльнасці «трактарыст-машыніст», да арміі працаваў у калгасе.**

«З арміі вярнуўся дадому якраз у пачатку дзевяностых, – расказвае ён. – Ні працы, ні заробку. Уладкаваўся трактарыстам – праца звыклая, зарплата капейкавая. Перайшоў на свінакомплекс слесарам-аператарам. Потым некалькі гадоў працаваў будаўніком у Беларусі і Расіі».

Пасля Андрэй асеў у Капылі. Браўся за любую працу. Але ні дастатку, ні задавальнення ад працы не атрымоўваў.

**«Рашэнне пераехаць у вёску паўстала не проста так, – кажа Андрэй. – Захварэлі бацькі, на іх апецы заставаўся малодшы брат-інвалід. Трэба было даглядаць і весці гаспадарку».**

### Пачаў усё спачатку

Андрэй вярнуўся ў Дзярэчын у 2005 годзе. Дапамогі па доглядзе за бацькамі і братам на жыццё не хапала. Эканоміць сямейны бюджэт дазваляла асабістая гаспадарка: куры, качкі, трусы, карова, агарод.

Аднойчы заняў грошы ў родных і знаёмых і купіў шэсць свіней. З іх і пачаўся яго шлях у прадпрымальніцтва. За тры гады пагалоўе свіней павялічылася да 60. Мяса прадаваў спачатку скупшчыкам, а потым сам стаў гандляваць на рынку ў Салігорску. Чысты прыбытак тады складаў каля 10%.

У 2007 годзе пазнаёміўся з будучай жонкай. Яна працавала ў Капылі сакратаром-рэферэнтам, але пагадзілася пераехаць у вёску. Так у доме з'явілася гаспадыня і памочніца ў справах.

У 2009 годзе Андрэй аформіў ІП. Яно дало права прадаваць не толькі прадукцыю з уласнага падворка, але і займацца скупкай жывёлы ў насельніцтва.

### Працавалі шмат і жылі нябедна

Даходы сям'і паступова павялічваліся. Чысты прыбытак ад гаспадаркі за вылікам усіх выдаткаў складаў 20-25%. Увесь даход укладвалі ў абарот вытворчасці. «На рынку я прадаваў у месяц 10-15 свіней», – тлумачыць Андрэй.

У 2013 годзе сям'я купіла цялят і коней. «За два гады пагалоўе коней павялічылася да 16. Колькі было бычкоў, дакладна не скажу, пастаянна здавалі скупшчыкам. Чысты прыбытак павялічыўся да 30-35%».

Корм Андрэй купляў у калгасе: ячмень, пшаніцу, сена, а на прадпрыемстве – камбікорм. Прыкладна палову ад неабходнага аб'ёму кармоў вырошчвалі самі. Для гэтага дамовіўся з уладальнікамі пустуючых участкаў і засейвалі іх збожжавымі, бульбай і травой. Пазней выкупіў два пустуючыя дамы разам з участкамі, яшчэ два арандаваў, адзін участак дастаўся ў спадчыну ад бабулі.

Бяда прыйшла ў 2015 годзе. Гаспадарка страціла ўсіх свіней з-за чумы і панесла вялікія страты. Свіней вырашылі больш не разводзіць.

### СТА – больш надзейны бізнес

У 2015 годзе сельсавет выставіў на таргі былы сельскі клуб. Прапанова падалася Андрэю цікавай і своечасовай. «Прыватны падворак – справа прыбытковая, калі не ўмяшаецца прырода. Вырашыў, што кафэ і СТА – больш надзейны бізнес», – тлумачыць Андрэй.

У 2016 годзе прадаў усіх коней і бычкоў, каб купіць будынак і зрабіць рамонт. Узяў у банку льготны крэдыт па праграме развіцця малога бізнесу – 30 недэнамінаваных мільёнаў рублёў аформіў на сябе, 45 – на жонку.

**Рэшткі старога клуба абышліся Андрэю ў 50 мільёнаў рублёў. Амаль год ішоў рамонт, будаўніцтва і добраўпарадкаванне тэрыторыі.**

У верасні 2016 года адкрылася СТА, а 26 снежня – кафэ. За год кафэ і СТА яшчэ не акупіліся. Прыбытак ідзе на пагашэнне крэдыту, працягваюцца работы па добраўпарадкаванні.

### Кліенты ў СТА ёсць заўсёды

СТА не прастойвае, заўсёды ёсць кліенты. У майстэрні працуюць два чалавекі: механік-электрык і сам Андрэй.

**Па заказах кліентаў выязджаюць у іншыя населеныя пункты, рамантуюць і калгасную тэхніку. У дзень у майстэрні абслугоўваецца ад дзвюх да шасці машын.**

У кафэ працуюць два чалавекі: кухар і жонка Андрэя. Днём у працоўныя дні ў кафэ наведнікаў мала, часцей мясцовыя прыходзяць купіць што-небудзь з прадуктаў. На кубак кавы або гарбаты заязджаюць гаспадары машын, якія чакаюць заканчэння рамонту.

Бліжэй да вечара прыязджаюць маладзёвыя кампаніі з 5-10 чалавек з навакольных вёсак, Салігорска і Капыля. Іх прыцягваюць зніжкі і цэны, якія ніжэйшыя за кошт выкарыстання гароднiны і садавіны з уласнага падворка.

У выхадныя дні ў кафэ шматлюдна – праходзяць вяселлі, дні нараджэння. Ладзяць тут і памінкі. Абеды на 30 чалавек рыхтуе жонка, але калі заказаў шмат, Андрэй дадаткова запрашае кухараў.

У планах – пабудаваць побач з кафэ дзіцячую гульнявую пляцоўку, лазню з саўнай і басейнам, магазін.

**Ала ВІСЛАВУС,**
**«Інфа-Кур'ер», Слуцк.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.06 | 5.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1.9980 | **1.9946** |
| Еўра | 2.3283 | **2.3235** |
| Злоты, 10 | 5.3611 | **5.2932** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1640 | **3.1524** |
| Грыўня, 100 | 7.5941 | **7.5424** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **27.06** | **4.07** |
| Еўра | 2.3170/2.3350 | **2.3000/2.3250** |
| Долар ЗША | 1.9860/2.0020 | **1.9800/2.0050** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **27.06** | **4.07** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,68 | **18,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **7,13** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **13,00** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | **1,60** |
| Алей «Залатая семачка», 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 0,80 | **1,00** |
| Баклажаны, 1 кг | 3,50 | **2,70** |
| Бульба, 1 кг | 1,30 | **1,20** |
| Буракі, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | **0,75** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,30 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,50 | **2,50** |
| Памідоры, 1 кг | 2,20 | **1,85** |
| Перац, 1 кг | 3,10 | **2,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,10 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,80 | **3,20** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **2,95** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **1,99** |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Гранаты, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,20 | **3,30** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,20 | **3,20** |
| Дыня, 1 кг | – | **2,50** |
| Кавун, 1 кг | 2,00 | **1,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,20 | **5,30** |
| Лімоны, 1 кг | 4,80 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Чарэшня, 1 кг | 4,20 | **4,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,40 | **2,20** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## У Вілейцы наехалі на школьніка

**ВІЛЕЙКА**

Здарэнне адбылося апоўначы 3 ліпеня. 20-гадовы мясцовы жыхар ехаў на «БМВ-520» па плошчы Свабоды.

У гэты момант нерэгуляваны пераход пераходзіў 16-гадовы пешаход.

Школьнік, жыхар Вілейскага раёна, не быў абазначаны святлоадбівальным элементам. Ён атрымаў цялесныя пашкоджанні.

Хлопца шпіталізавалі. Кіроўца цвярозы.

## Выратавальнікі спынілі пажар на пілараме

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося раніцай 27 чэрвеня ў вёсцы Малы Бор Маладзечанскага раёна.

Калі на месца прыехалі падраздзяленні МНС, будынак пілорамы гарэў адкрытым полымем. Унутры людзей не было.

Калі пачаўся пажар, пілорама не працавала.

Выратавальнікі спынілі пажар. Пацярпелых няма.

Агонь знішчыў дах на плошчы 96 квадратных метраў.

Прычыну высвятляюць.

## Бяспраўнік за рулём уехаў у гаспадарчую пабудову

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ноччу 1 ліпеня ў вёсцы Радзеўцы адбылася аварыя.

23-гадовы жыхар Мінска, нецвярозы і без правоў, ехаў на «Рэно-Лагуне». На закругленні дарогі ўлева не справіўся з кіраваннем, выехаў за межы дарогі і наехаў на гаспадарчую пабудову, якая знаходзілася справа.

У выніку аварыі кіроўца атрымаў цялесныя пашкоджанні – закрыты пералом абедзвюх касцей правага перадплечча.

Нецвярозы бяспраўнік быў прышпілены рамянём бяспекі.

**Сяргей ЧАБАТЫРОЎ, УУС Мінаблвыканкама.**

## «Міцубісі» пасля сутыкнення з «ФВ» знесла святлафор. Той упаў на пенсіянерку

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечне святлафор, які ўпаў пасля ДТЗ, траўмаваў 80-гадовую жанчыну.

Аварыя адбылася 29 чэрвеня, каля 9 гадзін раніцы. Паводле папярэдняй інфармацыі, 27-гадовы кіроўца «Фольксвагена» на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і вуліцы Багдана Хмяльніцкага пры развароце не саступіў дарогу сустрэчнай «Міцубісі». Адбылося сутыкненне.

– Ад удару «Міцубісі», якой кіраваў 41-гадовы кіроўца, выехала на правы па ходзе руху тратуар, дзе наехала на святлафор. Той, па словах кіроўцы, зваліўся на 80-гадовую жанчыну. Дадзеная інфармацыя правяраецца, – паведамілі ў ДАІ Мінскай вобласці.

У выніку ДТЗ пенсіянерка атрымала траўмы рознай ступені цяжкасці і была шпіталізаваная.

**Паводле AUTO.TUT.BY.**



Астравецкія дзеткі з задавальненнем фатаграфаваліся ў вобразе герояў-выратавальнікаў.



Маладзечна: аказваецца, выклікаць пажарных не так проста, як можа падацца.



І дарослыя, і дзеці з цікавасцю ўзаемадзейнічалі з пляцоўкай выратавальнікаў.

# Як выратавальнікі стваралі свята для гараджан

**МАЛАДЗЕЧНА, АСТРАВЕЦ**

**У вялікія выхадныя па ўсёй краіне былі запланаваныя разнастайныя праграмы. Работнікі МНС вырашылі далучыцца да святаў і адначасова правесці іх карысна і весела.**

У Астраўцы 3 ліпеня выратавальнікі зладзілі ў парку фотазону, выставу тэхнікі і спецсасталявання. Дарослыя і дзеці з задавальненнем прымяралі адзенне пажарных і фатаграфаваліся.

У Маладзечне 3 ліпеня адзначалі Дзень Вызвалення, а 2 – Дзень горада.

Работнікі МНС зладзілі тэматычную пляцоўку на Цэнтральнай плошчы. Выратавальнікі праводзілі віктарыны і конкурсы. Любы ахвотны мог прымераць каску пажарнага і баявое адзенне.

Дзеці з задавальненнем дзяліліся, што ведаюць пра пажары, як дзейнічаць у надзвычайных выпадках і як паводзіць сябе ў вадаёмах і на пляжах.

Госці слухалі пра рэальныя няшчасныя выпадкі, якіх можна было б пазбегнуць, калі б людзі прытрымліваліся правілаў бяспекі.

Кожны мог «выклікаць» пажарных на выдуманы пажар, і аказалася, што гэта не так і проста. А ў час сапраўднага пажару чалавек пачынае хвалявацца і часам не можа прыгадаць свой адрас.

Дарослым дарылі буклеты з правіламі пажарнай бяспекі. Малышы атрымоўвалі расфарбоўкі, налепкі і закладкі з героямі «Чароўнай кнігі МНС».

**Паводле паведамлення МНС.**

## Суд вынес прыгавор па даванні хабару на пункце пропуску «Катлоўка»

**АСТРАВЕЦ**

Суд Цэнтральнага раёна Мінска вынес прыгавор па крымінальнай справе па даванні хабару службовым асобам мытнага пункта пропуску «Каменны Лог» Ашмянскай мытні.

У панядзелак суд Цэнтральнага раёна Мінска вынес прыгавор па крымінальнай справе па абвінавачванні грамадзяніна Г. у даванні хабару (ч. 2 арт. 431 Крымінальнага кодэкса), паведамляе сайт court.gov.by.

Прыгаворам суда Г. прызнаны вінаватым у даванні хабару ў буйным памеры. Яму прызначанае пакаранне ў выглядзе штрафу ў даход дзяржавы ў памеры 1 тысячы 500 базавых велічынь у суме 36 тысяч 750 рублёў.

Прыгавор у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны і апратэставаны.

**Аддзел інфармацыі.**



## Жыхары Крэва абмеркавалі пытанні бяспекі на сходзе

**СМАРГОНЬ**

**Работнікі Смаргонскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях 29 чэрвеня пабывалі ў аграгарадку Крэва.**

Асноўнымі тэмамі былі паводзіны на вадаёмах і дзіцячы траўматызм.

Начальнік Смаргонскага раённага аддзела па НС **Дзяніс Мінко** расказаў, якія адбыліся пажары ў вобласці і раёне. Патлумачыў, што адны з галоўных прычын узнікнення – безадказнасць гаспадароў, якія маюць п'янае ацяпленне, а таксама калі п'яны курац у ложку. Нагадаў, што лета – самы лепшы час, каб адрамантаваць печы і падрыхтаваць жыллё да ацяпляльнага сезона.

Асобнае пытанне – бяспека дзяцей у летнія канікулы. У прыклад прывялі трагічныя выпадкі з удзелам дзяцей.

Купанне ў стане алкагольнага ап'янення практычна заўсёды заканчваецца трагічна. Прадстаўнік цэнтра «Цёплы дом» расказаў, што неабходна клапаціцца пра састарэлых бацькоў.

**Паводле МНС.**

# «Прыходзіць у краму са сваімі пакетамі – гэта не сорамна, а крута!»

## Вілейка стала першым горадам, які наведала каманда «Гарады – ZeroWaste» у сваёй экспедыцыі

ВІЛЕЙКА

**Група экспертаў Цэнтра экалагічных рашэнняў (ЦЭР) і валанцёраў наведала Вілейку на мінулым тыдні. Валанцёры за адзін дзень абышлі ледзь не ўсе магазіны і кантэйнеры для смецця, каб пабачыць, наколькі мясцовыя жыхары дбаюць пра навакольнае асяроддзе.**

Эксперты **Марыя Сума**, **Наталля Блышчык** і **Антон Барысенка** ў сваю чаргу накіраваліся ў мясцовы выканкам, а таксама ў госці да мясцовых жыхароў.

Экспедыцыя не выпадкова называецца «Гарады – ZeroWaste» (англ. – «нуль адходаў»): яна прысвечаная менавіта праблеме смецця. Ці магчыма зменшыць аб'ём адходаў і ў канкрэтным доме, і ў цэлым у горадзе? Ці гатовыя да гэтага жыхары і ўлады? Адказы на гэтыя пытанні каманда экспертаў і валанцёраў шукала на вуліцах Вілейкі 26 чэрвеня.

### «Не лянуйцеся сартаваць смецце і таптаць пластыкавыя бутэлькі!»

Проста прайсціся па горадзе разам з камандай не атрымліваецца: мы абавязкова спыняемся ля кожнага кантэйнера са смеццем і зазіраем унутр.

– Калі ў вілейскіх дварах ёсць асобныя кантэйнеры для пластыку ці шкла, то часцей за ўсё ў іх менавіта пластык і шкло, – заўважае Марыя Сума. – Але, вядома, не абыходзіцца і без тых, хто кідае пластыкавыя бутэлькі ў агульнае смецце. Цешыць, што калі кантэйнеры перапоўненыя, то людзі не кідаюць пластык у агульнае смецце, а складваюць яго ля перапоўненага бака. Значыць, жаданне сартаваць у віляйчан ёсць.

Эксперты заўважаюць, што не заўсёды смецце вывозіцца своечасова – нярэдка ў дварах можна пабачыць забітыя пад завязку кантэйнеры для пластыку.

– Калі пластыкавыя бутэлькі змінаць перад тым, як выкінуць, то можна добра зэканоміць месца ў кантэйнеры, – кажа спецыяліст. І пацвярджае словы ўласным прыкладам: дастае выкінутыя бутэлькі і топча іх нагамі. Праз пару хвілін такой працы ў кантэйнеры з'яўляецца вольнае месца.

**Але ж найбольш эфектыўны спосаб змагацца са смеццем – гэта не павялічваць і не купляць яго.**



Можна завесці сабе некалькі палатняных торбаў і кожны дзень падбіраць пад адзенне, – усміхаецца Ларыса Якавюк.

– Паводле сусветнай статыстыкі, аб'ём смецця штогод павялічваецца на 5-10%. І гэта пры тым, што колькасць насельніцтва расце куды меншымі тэмпамі, – заўважае Наталля Блышчык. – Большая частка смецця сёння – гэта ўпакоўка.

Прыгадайце, як хутка запаўняецца ваша сметніца пасля паходу ў магазін. Пакеты, каробкі ад пячэння ці цукерак, кантэйнеры з-пад мясных вырабаў, – яшчэ 20 гадоў таму іх колькасць не была такой вялікай.

– Зразумела, што магазін па санітарных нормах павінны забяспечыць тавар упакоўкай, – тлумачыць спецыяліст. – У нас як у пакупнікоў часта ёсць выбар: напрыклад, купіць 200 грамаў цукерак у новы пакет ці ў сваю торбачку.

### Хочаце дапамагчы прыродзе? Пачніце з сям'і

Адзін з прыпынкаў – кватэра мясцовай жыхаркі, якая вядзе экалагічна сяброўскі лад жыцця. Эксперты ЦЭР завіталі ў госці да віляйчанкі **Ларысы Якавюк**, менеджара грамадскага аб'яднання «Жывое партнёрства».

Калі ваша сям'я гатовая больш дбаць пра навакольнае асяроддзе і для гэтага крыху змяніць паўсядзённыя звычкі, то прыслухайцеся да парадаў спадарыні Ларысы.

**Завядзіце скрыню для макулатуры, у якую збірайце не толькі газеты і рэкламныя буклеты, але і кардонныя ўпакоўкі ад чая, лекаў, папяровыя пакеты ад мукі і цукру, утулкі ад туалетнай паперы.**

Пластыкавыя пакеты выкарыстоўвайце столькі разоў, колькі гэта магчыма. Калі дома іх збіраецца зашмат – выкарыстоўвайце «майкі» як пакеты для смецця, каб не набываць новыя.

Калі рэгулярна з'яўляюцца пратэрмінаваныя прадукты, паспрабуйце знайсці тых, каму спатрэбяцца: магчыма, сусед трымае свіней ці курэй або суседка мае яму з кампостам.

Паспрабуйце прыбірацца ў кватэры з мінімумам хімічных сродкаў, выкарыстоўваючы праверaныя гадамі соду і воцат.

Калі разумееце, што некаторымі рэчамі не карыстаецеся, – паспрабуйце прадаць ці аддаць тым, каму яны патрэбныя.

Не рабіце «падарункаў для падарункаў». Лепей або запытацца ў чалавека, што яму сапраўды неабходна, або падарыць паслугу – напрыклад, адрамантаваць тэлевізар.

Замяніце лямпачкі ў кватэры на святлодыёдныя, не пакідайце электрапрыборы ў рэжыме чакання і адмоўцеся ад электрачайніка, калі маеце газавую пліту. Гэта зэканоміць і электраэнергію, і грошы.

Калі маеце звычку насіць з сабой пітную ваду, то завядзіце бутэльку са шкла або пластыку для шматразовага выкарыстання.

Ларыса Якавюк нагадала пра акцыю, якую ладзіць «Жывое партнёрства»: перадаўшы ў арганізацыю 50 пластыкавых накрывак (ад малака, газіраваных напояў і г.д.) вы зможаце атрымаць фірменную льняную торбачку. А за 100 накрывачак – шматразовую складную торбачку.

– У краінах ЕС практыка збору накрывак вельмі пашыраная, – тлумачыць спадарыня Ларыса. – Яны робяцца з адмысловага, шчыльнага пластыку. Калі яго пераплавіць, то можна зрабіць, напрыклад, пратэз рукі ці нагі.

### Квас – у свой кубак, арэхі – у свой мяшочак

Занятыя даследаваннямі ў Вілейцы былі не толькі эксперты, але і валанцёры. Кожны з іх меў аднолькавае заданне – купіць у краме любы сыпучы прадукт у сваю тару, папрасіць наліць квас ва ўласны кубак, а таксама выкінуць батарэйкі ў спецыяльныя скрыні.

З батарэйкамі праблем не ўзнікала – амаль у кожнай краме Вілейкі ёсць спецыяльная скрыня для іх збору, паколькі гэта небяспечнае смецце, якое ні ў якім разе нельга выкідаць у звычайную сметніцу. Але і тут не абышлося без непаразуменняў.

– У адной краме я запытаўся, куды можна выкінуць батарэйку, – кажа валанцёр **Дзмітры Бартош**. – На што прадавец проста працягнуў мне руку са словамі: «Давайце мне, я выкіну». Калі я запытаўся куды, ён адказаў: «Як куды? У сметніцу».

З сыпучымі прадуктамі было прасцей. Хоць прадаўцы не хвалілі свайго здзіўлення, але выконвалі просьбу пакупніка і насыпалі арэхі ў палатняны мяшочак. Без пытанняў у прынесеным мяшочку ўзважылі і кавалак пірага.

– Вы б бачылі, як на нас глядзелі некаторыя прадаўцы! – кажуць валанцёры. – Чамусьці многія думаюць, што калі ты ходзіш са сваім пакетам, то ты або бедны, або ненармальны. Але дбаць пра прыроду – гэта не сорамна, а крута!

Валанцёры назіралі за іншымі пакупнікамі і адзначалі: многія з іх прыходзяць за пакупкамі са сваімі пластыкавымі пакетамі і не бяруць новыя на касе.

Наступны пункт эксперыментаў – пакупка квасу. Валанцёрам без праблем налівалі напой у іх уласныя тэрмакубкі. У размовах прадаўцы казалі, што часам віляйчане прыходзяць па квас са сваёй тарай. Але калі тара брудная ці кепска пахне, прадавец не нальe ў яе квас – у такім выпадку ён не можа гарантаваць якасці прадукту.

Вынікі эксперыментаў паказалі – сфера паслуг у Вілейцы адкрытая да тых, хто хоча весці свядомы экалагічны лад жыцця. Валанцёры перакананыя, што гэтым трэба карыстацца. Тады віляйчане будуць усё радзей бачыць здзіўленне ў вачах прадаўца пры словах «у мой пакет, калі ласка».

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота аўтара.**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Амега, 1988 г.в., 1,8 газ-бензін, у добрым стане. Т. Вэлком (8-029) 1633772.*

• Пежо-306, 1997 г.в., 1,6Б, на хаду. Т. (8-029) 1564249.

• Сітраэн С-5, 2002 г.в., хэтчбэк, 2,0 HDI, нюансы па дробязях, 6000 руб., торг. Т. (8-029) 5676832.*

• ФВ-Пасат, 1991 г.в., 1,8 бензін, па запчастках. Т. (8-029) 6232553.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*





### ПАСЛУГІ

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Маркава, 2/2. Т. (8-029) 2507130, (8-029) 2521951.*

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмен на г. Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам. Альбо абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д.16, корпус 1, 4 паверх. Т. (8-029) 5581258.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Чапаева,74, раён «Зеніта». Усе пытанні па тэлефонах: (8-029) 7681486, (8-029) 1576792. Ірына.

• 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі, альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Савецкай, нядорага. Т. МТС (8-029) 8527481.

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Дом вялікі ў добрым месцы, 13 км ад Смаргоні. Нядорага. Т. (8-029) 8724272.

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у в. Якавічы і дом у в. Маркава Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 5616191.*

• Дом цагляны ў вёсцы Куранец Вілейскага раёна агульнай плошчай больш за 100 кв. м, зямельны ўчастак 40 сотак.Т. (8-029) 5609402.*

• Кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец,153-б. Выдатны рамонт. 75 433 руб. Т. (8-029) 1108998.

• Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*

• Садовы ўчастак, жылы домік. Нядорага. КААП«Брыльянт», каля вёскі, чыгуначны прыпынак Ласі. Т. (8-033) 6407558.*

### ЗДАМ

• Кватэру альбо пакой у Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада. Жывая музыка. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*





### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, двухстворкавыя. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катароў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*







### ВНИМАНИЮ РЫБОЛОВОВ!

В июле 2018 года на водоёмах республики Беларусь пройдёт профилактическая акция «Рыбалка по правилам». В ходе мероприятия работниками Белорусского общества охотников и рыболовов совместно с сотрудниками Госинспекции охраны животного и растительного мира будет организован усиленный контроль за соблюдением Правил ведения рыболовного хозяйства и рыболовства.

Особое внимание при проведении рейдовых мероприятий будет уделено соблюдению рыболовами Правил при осуществлении лова рыбы на кружки, колобашки, донки, на дорожку с судов с двигателями, а также поддержанию рыболовами надлежащего санитарного состояния рыболовных угодий.

Напомним, что, в соответствии с Правилами, осуществлять лов рыбы с применением орудий любительского рыболовства с общим количеством крючков от 6 до 10 штук на рыболова и лов рыбы на дорожку с судов с двигателями разрешается только рыболовам, которые являются членами РГОО «БООР».

Рыболовы, нарушившие требования Правил, несут административную, уголовную или иную ответственность в соответствии с действующим законодательством.

Оплатить членский взнос можно по адресу:
**г. Молодечно, ул. Офицерская, д.20.**

• Наносім фота любімых на майку альбо кубак, 9 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 690288442 Т. (8-029) 6631595.*

• Прамысловы альпініст. Уцяпленне кватэр, рамонт швоў, фасадаў. Адкосы, казыркі, адлівы, дахі балконаў, вадасцёкавыя сістэмы. Рамонт, мантаж. Любія вышынныя работы. Гарантыя – 3 гады. ІП Глаткі А.А. УНП 692021425. Т. (8-033) 3020545.

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Толькі бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне + копка – **СКІДКА**. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40, навяснoe, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Абаненцкія карты «Трыкалор» – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя «Трыкалор», НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГУП «Ліцэраль». УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Мэбля б/у для пакоя і кухні, часткова аддам дарма. Т. (8-029) 5523988.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Адна дойная каза, адна котная, 6-месячны козлік і козачка, авечка котная. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.

• Вуллі новыя на 24 рамкі. Т. Вэлком (8-029) 9950326.*

**Іншае**

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

• Газавы кацёл новы Main 24F. Т. (8-029) 8600978.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Арматуру 8, 10, 12 мм, ліст 1,5 – 3 мм. Т. (8-029) 1247481.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі для працы ў Вілейцы патрабуецца спецыяліст па перамотцы электрарухавікоў, юрыст з досведам працы, брыгада будаўнікоў-універсалаў (цесляры-бетоншчыкі, муляры), тынкоўшчык-маляр. З/плата па выніках сумоўя. 222410, г. Вілейка, вул. Кастрычніцкая, 32. Т. (8-01771) 23751,(8-029) 7791319, (8-044) 7791319.

• Зваршчыкі і слесары па мантажы сантэхсістэм і сістэм пажаратушэння. Заработная плата здзельна-прэміяльная. ТАА «Спецпраектсэрвіс». Т. (8-029) 7690016 Аляксандр.

• Падсобны рабочы на сезон: бетон, земляныя работы. Т. (8-025) 7894666.

• **ПРАДАВЕЦ-КАНСУЛЬТАНТ, ПРАДАВЕЦ-КАСІР** у магазін «Ламінат» у Маладзечне па вул. Валынца, 12-е. Т. (8-029) 6368886.

• Рабочыя будаўнічых спецыяльнасцяў, прараб. ТАА «Стройбай» УНП 692023203. Т. (8-033) 3516839, (8-044) 5186382.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачнік. Вялікі досвед працы. Т. (8-029) 2775694.*

• Устаноўка агароджаў. Зварачныя работы. Бетонныя работы. Дэмантажныя работы. Кладка блокаў, цэглы. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Чаму пасля школы варта рабіць «свабодны год»

**Беларускія 11-класнікі – гэта сінонім няспыннага стрэсу. Рыхтуешся да ЦТ, экзаменаў, убор на выпускны выбіраеш, пасля носішся з падачай дакументаў. Пры гэтым прымаеш адно з найважнейшых рашэнняў у жыцці. А ў такім цэйтноце вельмі лёгка памыліцца.**

Менавіта таму многія прадстаўнікі заходняй моладзі бяруць пасля школы так званы «gap year», ці год перапынку. Ніякай мітусні. Заканчваеш школу – і даеш сабе год адпачынку.

На постсавецкай прасторы свабодны год – прыкмета няўдачы і слабасці. Мы спяшаемся хутчэй жыць, нібы ўскочыўшы на цягнік, які прывязе ўсё ж такі ў светлае будучае. Аднак прычына хутчэй палягае ў няўпэўненасці ў тым, што ты станеш запатрабаваным і паспяховым. І ў рэшце рэшт многія расчароўваюцца ў выбары прафесіі яшчэ ў час навучання. Ці на першым рабочым месцы, калі паміж чаканнем і рэальнасцю аказваецца бездань.

Напрыклад, у Германіі свабодны год толькі вітаецца. Дзякуючы яму малады чалавек асэнсавана прымае рашэнне аб прафесіі.

### Што робяць у свабодны год

У Германіі для тых, хто абраў свабодны год, існуе шэраг праграм, якія дапамагаюць правесці гэты час з карысцю. Прычым удзел у іх як правіла бясплатны. Напрыклад, па праграме для валанцёраў некалькі выпускнікоў з Германіі прыязджалі ў Маладзечна і выкладалі ў 10 гімназіі нямецкую мову. У гэты час яны выконваюць некаторую працу, а таксама ўдзельнічаюць у насычанай культурнай праграме – экскурсіі, паездкі, знаёмствы са шматлікімі людзьмі.

У свабодны год неабавязкова губляць час дарма. Можна падцягнуць тыя прадметы, якія праселі. Калі пасля 11 класа адзін ці некалькі з прадметаў на ЦТ абітурыент здаў не вельмі, то можна год рыхтавацца менавіта па гэтым прадмеце. І пасля чарговай здачы ЦТ абраць лепшыя вынікі, з якімі і падаваць дакументы. Мінулагодні сертыфікат будзе дзейнічаць і ў час уступнай кампаніі наступнага года.

**Аляксандра Ярмоліна** з Чысці не паступіла ва ўніверсітэт летась. Дзяўчына не стала гнацца і аддаваць дакументы ў менш жаданы ўніверсітэт. Яна на год засяродзілася на сабе. Рыхтавалася да ЦТ па гісторыі, якое ўдалося горш за іншыя, вучыла правілы дарожнага руху, займалася спортам і стала чэмпіёнкай Еўропы па ўшу.

У гэты год можна закончыць спецыяльныя курсы, якія могуць спатрэбіцца ў жыцці, здаць на правы, падвучыць замежную мову, прайсці курс цырульніка ці візажыста.




**Не бойцеся ў свой свабодны год прысвяціць час сабе. Зрабіце тое, пра што марыце. А знайсці для гэтага магчымасць прасцей, чым вы думаеце. Адчуйце, што перад вамі ўвесь свет – і слушнае рашэнне, што рабіць далей, прыйдзе само.**

Можна ўступіць у валанцёрскую праграму на месяц ці на два. Дапамагаць сталым людзям, хворым, дзецям. Такі досвед загойвае раны і змякчае душу.

А можна трапіць на важнае для вас мерапрыемства, напрыклад, чэмпіянат свету, калі стаць адным з валанцёраў і выконваць нескладаную працу. Грошай вы не заробіце, затое ўсе расходы акупіць арганізатар.

Некаторыя ў гэты час падарожнічаюць. Калі яшчэ будзе магчымасць бясклапотна павандраваць па свеце? Такое падарожжа змяняе, робіць моцным і дапамагае адшукаць самую правільную дарогу. У такі перыяд малады чалавек нарэшце можа пачуць сябе і асэнсаваць, чаго ён хоча.

Калі ўсё тваё свядомае жыццё прайшло ў школе, цяжка зразумець, чаго ты хочаш. Трэба ўбачыць свет, іншых людзей, прымераць прафесію на сябе. Тады гэта будзе асэнсаваны выбар.

Паспрабуйце пастажыравацца. Многія працадаўцы гатовыя прыняць зацікаўленага стажора на месяц-другі, які будзе выконваць патрэбныя задачы, і плаціць якому трэба мінімальна ці не трэба зусім. Асабліва ў перыяд адпачынкаў атрымаць такую магчымасць цалкам рэальна.

Не бойцеся дабівацца стажыроўкі менавіта ў тым месцы, дзе вы марыце працаваць. І калі праз месяц акажацца, што гэта абсалютна не тое, што вы хацелі – будзьце шчаслівыя. Вы не падпісалі сябе на нелюбімую працу на ўсё жыццё. А ў вас яшчэ столькі часу, каб знайсці тое самае.

### Як пераканаць бацькоў

Калі некаторыя маладыя людзі і хацелі б зрабіць свабодны год, то далёка не ўсе бацькі гатовыя іх падтрымаць.

Перш за ўсё варта шчыра паразмаўляць і падзяліцца тым, што на душы. Упэўніце тату і маму, што гэты год вы збіраецеся правесці з карысцю. А нішто так не ўпэўніць іх, як складзены план таго, чым вы будзеце займацца.

І нішто так не важна любым бацькам, як упэўненасць і паспяховасць дзяцей. Нават калі суседкі будуць коса паглядваць. Вы жывяце для сябе, і рабіце так, як лепш для вас.

**Эмілія ХВОЯ.**

# Пакаталіся на конях і зарабілі «ільяшы»

## Як школьнікі з Ілы бавілі час у школьным летніку

ВІЛЕЙКА

**У чэрвені ў ільянскай школе працаваў аздараўленчы лагер з дзённым знаходжаннем «Аматары прыгод».**

План летніка пабудавалі так, каб кожны дзень адпавядаў пэўнай тэме: здароўю, экалогіі, бяспецы, краязнаўству і іншаму.

Ладзілі актыўныя гульні, вясёлыя спаборніцтвы, займальныя віктарыны, спартыўныя гульні па баскетболе, футболе, піянерболе, валейболе. Таксама камандныя спаборніцтвы: спартландыя «Спартыўнае лета – ура!», «Шчаслівы выпадак», «Шоу-праграма «Танцавальны марафон», «Экалагічная мода».

Выхаванцы летніка наведалі басейн, пабывалі на экскурсіі ў пажарнай часці, у Ільянскай участковай бальніцы, наведалі тэматычныя экскурсіі ў школьных народных музеях «Ільянскія даляглядзы», «Вілейшчына літаратурная», на Вілейскай выратавальнай станцыі.

Выхаванцы схадзілі ў пешы паход «Культавыя святыні Ільяншчыны.

Змястоўнымі былі экскурсіі ў Вілейскі краязнаўчы музей, выставачную залу імя Сілівановіча, аддзел дэпартамента аховы, фотаэлектрастанцыю.

Прадэманстраваць свае творчыя таленты дзеці змаглі ў інтэрактыўных конкурсах.

Карыснымі былі экскурсіі ў анатамічны музей Ільянскага дзяржаўнага аграрнага каледжа, у Вілейскую ветстанцыю, на аддзяленне сувязі Ілы.

**Тацяна Смаленская** правяла сустрэчу па дзіцячым цэнтры «Надзея», выхаванцы лагера наведалі музей, сцежку пачуццяў для ног, змаглі пазаймацца на розных спартыўных снарадах.

Дыскатэкі, танцавальныя, забаўляльныя праграмы для дзяцей аздараўленчага лагера праводзілі ў клубе.

Выхаванцы з'ездзілі ў цэнтр верхавой язды «Двор Старынкі». Дзякуючы гаспадыні цэнтра **Алене Волкавай** дзеці змаглі ўбачыць коней розных парод, падагладаць за імі і пакатацца.

Дзеці ўдзельнічалі ў экалагічных дэсантах, аперацыях «Чысты школьны двор», «Зялёная планета».

Дзеткі схадзілі на экскурсію на вучэбную ферму Ільянскага дзяржаўнага аграрнага каледжа, у лес.

У аздараўленчым лагеры ёсць грашовыя адзінкі пад назвай «ільяшы». Банкноты выпусцілі наміналам 5, 10, 20, 50 і 100 ільяшоў.

За кожны дзень у летніку выхаванцам налічвалі пэўную суму ільяшоў: за працоўную, спартыўную, грамадскую дзейнасць. За дрэнныя паводзіны і ўчынкі выхаванцы павінны былі плаціць штрафы.

У апошні дзень лагера прайшоў кірмаш, дзе выхаванцы набывалі за «ільяшы» канцылярскія прыналежнасці, сувеніры, падзелкі.

**Людміла МІКУЛІЧ,**
**дырэктар аздараўленчага лагера з дзённым знаходжаннем дзяцей Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**

# Як мы вучыліся супрацьпажарнай бяспецы на беразе Фінскага заліва

**На працягу дзесяці нехарактэрна цёплых для Эстоніі майскіх дзён на ўзбярэжжы Фінскага заліва праходзіла адукацыйная праграма міжнароднага маладзевага абмену Erasafety. Сярод удзельнікаў былі жыхары нашага рэгіёна.**



Фота забяспечанае Алёнай ХРАМЕЦ.

Удзельнікі адукацыйнай праграмы падчас вандроўкі.

Праект арганізавала некамерцыйная арганізацыя Together Estonia сумесна з праграмай Еўрапейскай камісіі Erasmus+ на базе адпачынку Віхасоо, што размешчаная на тэрыторыі Лахемааскага нацыянальнага парку.

На інтэрактыўных занятках удзельнікі развівалі навыкі супрацьпажарнай бяспекі, вучылі спосабы абараніць сябе і сваіх блізкіх у надзвычайных абставінах. У праекце ўдзельнічала моладзь 16-30 год з Польшчы, Літвы, Эстоніі, Фінляндыі, Італіі, Беларусі. Прыехалі кухары, дыетолагі, электрыкі, ахоўнікі. У склад беларускай каманды ўвайшлі чатыры юнакі і чатыры дзяўчыны розных прафесій, ад музыкантаў да інжынераў.

### Вучыліся тушыць полымя і правільна разводзіць касцёр

Праблема гібелі пры пажарах застаецца актуальнай ва ўсім свеце, але падыходы да яе вырашэння ў розных краінах адрозніваюцца. Ініцыятарам праекта выступіў эстонскі выратавальнік **Роланд Яфрэмаў**, дзякуючы якому мы пазнаёміліся з эстонскімі выратавальнікамі службаў нацыянальнай і добраахвотнай пажарнай аховы.

Падчас майстэрняў наладзілі спаборніцтвы па тым, як выконваем нарматыў на апрананне пажарнай экіпіроўкі, прымяралі балоны з кіслародам, арыентаваліся на мясцовасці. На практыцы вучыліся тушыць адкрытае полымя коўдрай, карыстацца вогнетушыцелем і нават пажарным гідрантам.

У Эстоніі выдзяляюць асобныя пажарныя апавяшчальнікі для дыму і для газу. У залежнасці ад класа ўзгарання прымяняюць аж да шасці тыпаў вогнетушыцеляў з рознымі варыянтамі распылення вады, пенай, сухім парашком, вуглекіслотныя і іншыя.

**Асабліва карысным стаў практыкум па арыентаванні ў памяшканні ва ўмовах штучнага задымлення, калі не бачыш абсалютна нічога. Расплюшчваеш вочы – а перад табой густы дым, складана дыхаць. Але дзякуючы цеплавізару шукаць неабходныя рэчы стала куды прасцей.**

У складзе інтэрнацыянальнай каманды праактавалі планы эвакуацыі пакояў, распрацоўвалі праекты па прадухіленні небяспечных выпадкаў на прыкладзе прафілактыкі пажараў у краінах-удзельніцах.

Трэнер-скаўт падзяліўся сакрэтамі па падрыхтоўцы і развядзенні вогнішча. Для гэтага найлепш падыходзяць часцінкі сухой бярозавай кары, раздзёртая папяровая хусцінка ці шматок бавоўны. Каб захаваць запалкі сухімі, лепш пакласці іх у пакецік, а затым у слоічак ці бляшаначку, якія добра закрываюцца.

Пры жаданні і наяўнасці вады, мукі і спрасаванага булённага кубіку можна прыгатаваць хлеб у паходных умовах.

На чале з медыцынскімі супрацоўнікамі і студэнтамі-медыкамі мы прайшлі курс па аказанні першай медыцынскай дапамогі, у тым ліку «ажыўлялі» манекен у сардэчна-лёгачнай рэанімацыі непрамым масажам сэрца і з дапамогай дэфібрылятара.

### Усіх скарылі беларускімі танцамі

Наша каманда з першых дзён прыцягнула да сябе ўвагу адкрытасцю, неабыякавасцю да справы ды песнямі. А рэшткі міжкультурнага бар'еру былі разбітыя ўшчэнт на нашым нацыянальным вечары пасля сумеснага ваджэння качана пад аўтэнтычныя песні, парных народных танцаў і беларускіх гасцінцаў.

Ніводны госць не здолеў уседзець на месцы. Калі абвясцілі аб заканчэнні, нашы замежныя сябры папрасілі працягу. І вечар зацягнуўся не на адну гадзіну. Пасля дзяўчаты з Польшчы дзяліліся ўражаннямі, што былі кранутыя да мурашак. Хіба можна чакаць лепшых водгукаў!

Ад імя ўсёй нашай беларускай каманды шчыра дзякую за падтрымку нашаму каардынатару праекта ў Беларусі выкладчыку музычнага каледжа імя Агінскага **Руслану Апановічу**.

**Удзел у адукацыйным праекце – гэта культурныя нацыянальныя вечары, тэатралізаваныя пастаноўкі, незабыўны час ля вогнішча з песнямі пад гітару, чароўныя захады і світанкі, папулярныя італьянскія жэсты, незвычайныя эстонскія словы накшталт jäääär ці Jõululaululaulja… Усё гэта засталося з намі назаўсёды.**

### Чым вабіць Эстонія

Калі вам аднойчы захочацца спакою, смела абірайце падарожжа ў Эстонію. Яна для нас стала ўласным маленькім раем. Нягледзячы на актыўны лад жыцця падчас праекта, большага спакою ды гармоніі, чым тут, адчуць проста немагчыма. Лахемаа – адзін з важнейшых лясных запаведнікаў у Еўропе, распасцёрты на ўзбярэжжы Фінскага заліва і адметны сваёй чысцінёй, дастаткова ветлівымі камарамі, адсутнасцю кляшчоў ды сапраўднымі балотамі. Мы пазнаёміліся і з турыстычным Талінам з яго Лётнай гаванню, сярэднявечнымі завулкамі ды назіральнымі пляцоўкамі. І апынуліся ў хіпстэрскім квартале Telliskivi, на незвычайным узбярэжжы з грудамі бетону, уражлівым будынку былой батарэйнай турмы.

**Існуе нямала недарагіх спосабаў для падарожжа. Білеты на аўтобус Вільня-Талін каштуюць каля 30 еўра. Знайсці больш танныя білеты можна падчас зніжак да 5 еўра. Для моладзі да 26 год часам прадугледжваюцца зніжкі. Купіць білет туды-назад будзе больш выгадна.**

Калі збіраецеся зэканоміць, у Эстоніі гэта наўрад ці атрымаецца. Пры паходзе ў супермаркет вока бачыць прывычныя лічбы, застаецца толькі перавесці па курсу, памножыць на 2,4.

Паўлітра вады абыдзецца прыкладна ў 0,4 еўра, хлеб – 1,0-2,9 еўра за кілаграм. Вячэра ў рэстаране можа абысціся прыкладна ў 7 еўра. Пры бюджэтным раскладзе можна тыдзень прахарчавацца за 30 еўра. Гэта залежыць ад вашых пажаданняў і бюджэту.

**Алёна ХРАМЕЦ,**
**Маладзечна, удзельніца праекта Erasafety.**



На свята ў Дубку сабраліся з бліжэйшых вёсак.



Атмасфера фэсту вельмі ўтульная.



Вернікі адчулі ўзнёсласць свята, у гэтым дапамагла музыка.



Свята ў Дубку кранае кожнага, якой бы канфесіі вы не трымаліся.



Надвор'е спрыяла ціхаму і спакойнаму святу.

# Як у сакральнай лясной кальварыі зладзілі фэст

АСТРАВЕЦ

**Калі складаць спіс беларускіх цікавостак альбо адметных мясцін з непаўторнай атмасферай, то Дубок будзе ў першых шэрагах.**

Драўляная 90-гадовая капліца на курганных могілках нашых продкаў, колішні святы гай, дзе кожнае дрэва лічылі святым, а ў лясах яшчэ засталіся сляды паганскіх ахвярнікаў – цяпер гэта месца завецца кальварыя Дубок. Падаецца, што той дух даўніны яшчэ жыве тут і хаваецца дзесьці па берагах Вяллі, у дупле старога, болей як 600-гадовага дуба, які яшчэ памятае часы Ягайлы і Вітаўта.

### Капліčка, якую адчыняюць раз у год

Сёлета ў Дубку было не так шмат людзей, як у мінулыя часы. Прыехалі парафіяне з суседніх касцёлаў, цэлы аўтобус прывёз бабуляў з суседніх Жодзішак, завіталі госці з Гродна, Мінска і Вільні. Было ціха, святочна і ўтульна. Святары вялі службу, іграў акардэон, шапацелі дубовыя лісточкі.

Калі з надвор'ем не пашанцавала пілігрымам у Будславе, дык у Дубку ўсё прайшло на славу. Шэрае неба паміж кронаў дубоў давала мяккае святло, дождж асмеліўся лінуць толькі тады, калі людзі пайшлі да лясных крыжоў і капліčак.

Дзіву даешся мясцовым руплiўцам. Колькі іх тут засталося ў навакольных Дубку, Навасёлках, Антонішках? Усё болей лецішчы альбо пустыя хаткі, а яны ўсё паляпшаюць сваю капліčку.

### Храм цішыні

Колькі год таму яны замянілі шыфер на металачарапіцу, абнавілі каляровыя сцяжкі, упрыгожылі калоны. І гэта ўсё для таго, каб адчыніць раз на год, на першую нядзелю ліпеня – на так званыя зялёныя святкі.

**Усё ж прыгадваюцца тыя дубовыя і бярозавыя галінкі, якімі храм быў упрыгожаны ў мінулыя часы і якія стваралі непаўторны вобраз лясной бажніцы, самага таямнічага храма ў Беларусі, храма цішыні.**

Тут не важна, якой вы канфесіі. Месца, у якім тысячагоддзі маліліся твае продкі, не можа не кранута беларускай душы.

**Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.**
**Фота аўтара.**

Даведка «РГ».
Кальварыя – з лацінскай мовы Calva – «чэрап». Святое месца, размешчанае на ўзгорках або ў лесе на былым язычніцкім капішчы. У гэтае месца прыходзілі на пакаянне. Звычайна размяшчалася на ўзгорках, каб нагадваць Галгофскую гару каля Ерусаліма.

# Помнікі невядомаму Пілсудскаму і чортавы камяні, што водзяць па лесе

## Краязнаўца з Мядзельшчыны прапануе падарожныя нататкі

МЯДЗЕЛ

*(Працяг. Пачатак у №26)*

**На пачатку лета я з краязнаўцамі-валанцёрамі падарожнічаў па Мядзельшчыне. Яркіх эмоцый і ўражанняў хапіла надоўга. Падарожнымі нататкамі дзялюся з чытачамі «Рэгіянальнай газеты».**



Старажытны Мядзел узнік на востраве ў возеры Мястра ў 10-11 стагоддзях.

### Знайшлі пахаванне сям'і Пілсудскіх

Праехаўшы па вузкіх вулачках аграгарадка Сваткі і нічога не адшукаўшы, сумняваемся, што знойдзем помнік Уладзіславу Пілсудскаму, дзеля якога ішлі сюды.

Пераязджаем па невялічкім мастку рэчку і трапляем у цэнтр аграгарадка. На даляглядзе з'яўляецца сціплы помнік савецкім воінам і партызанам. Аднак не яго мы шукаем.

Амаль на самым выездзе са Сватак бачым пажылую жанчыну, якая каля дарогі пасе козачак. Павіталіся з ёй, яна ветла ўсміхнулася і сказала, што ведае гэты помнік.

Загнала коз дадому і паехала з намі. Па дарозе трохі пазнаёміліся. Жанчына прадставілася **Аленай Спірыдонаўнай**. Распавяла, што гадоў 13 таму таксама прыязджалі палякі і шукалі гэты помнік.

У мястэчку захаваліся рэшткі бровара, які ў свой час, магчыма, належаў Уладзіславу Пілсудскаму. Быў калісьці тут і лазнева-пральны камбінат. З зямлі тырчыць кавалак кабелю, часам пад нагамі трапляецца бітая цэгла.

На ўзгорку ўзвышаецца той самы помнік. Толькі Алена Спірыдонаўна кажа, што быццам тут раней былі два помнікі. Дакладна ўжо не памятае. Помнік у паўразбураным стане: каменны крыж зверху адбіты, надпісы дрэнна чытаюцца.

Уладзіслаў Пілсудскі – нарадзіўся 11 кастрычніка 1860 – памёр 22 лютага... Далей не відаць. Унізе яшчэ адна дата – 1905 год. Гэта дае падставу меркаваць, што тут сапраўды два пахаванні – Уладзіслава Пілсудскага і яго жонкі, якая памерла ў 1905 годзе.

Галоўная мэта паездкі дасягнутая! Адвозім Алену Спірыдонаўну назад. Яна цалкам задаволеная сваім жыццём, так як у параўнанні з пасляваенным часам цяпер усяго ў дастатку.

– Моладзь не задаволеная сваім жыццём, бо не бачыла дрэнных часоў, – мудра разважае Алена Спірыдонаўна.

На пытанне, ці ёсць яшчэ ў Сватках пахаванні польскіх жаўнераў, яна сказала, што памятае толькі закінутую магілу трох салдат часоў Другой сусветнай вайны. Яшчэ школьнікамі насілі туды кветкі і за магілай даглядалі. Цяпер дарога туды зарасла, поле ўзаранае трактарамі.

Алена Спірыдонаўна выказала здагадку, што адзіны, хто ў Сватках будзе ведаць пра гэта пахаванне, – былы настаўнік гісторыі **Святаслаў Русак**.

### Знайшлі польскае пахаванне і раскіданыя па могілках крыжы

Вось мы і ў Мядзеле. Упершыню горад згадваецца ў дакументах вялікага князя Гедыміна. На паўвостраве Замак (раней гэта быў востраў возера Мястра) знаходзіўся каралеўскі замак. Асабліва важную ваенную і адміністрацыйную ролю ён набыў у часы Інфлянцкай вайны.

**За польскім часам на месцы сучаснага Мядзела былі два мястэчкі: Стары Мядзел і Новы Мядзел. У цяперашні час горад Мядзел з'яўляецца цэнтрам Мядзельскага раёна.**

Каля мядзельскага аўтавакзала – старыя гарадскія могілкі. Пахаванні на іх размешчаныя хаатычна і чаргуюцца з непралазнымі зараснікамі.

У самым кутку могілак размясцілася сціплае пахаванне польскіх жаўнераў часоў савецка-польскай вайны 1919-1921 гадоў. Над пахаваннем узвышаецца выкананы з добрым густам бетонны абеліск. На ім захаваўся надпіс 1933 года аб тым, што абеліск усталяваны ўдзячнымі жыхарамі Мядзела. Цудам захаваўся на абеліску і польскі арол. Упрыгожвае помнік яркая бел-чырвоная стужка. У 1939 годзе абеліск павалілі камуністычныя актывісты.

Гады тры таму помнік паднялі з зямлі і зноў усталявалі на ранейшым месцы. На ўрачыстае адкрыццё прыязджаў консул Польскай Рэспублікі. Ля падножжа помніка размешчаныя пяць аднатыпных крыжоў, пакрытых белай фарбай. Крыжы абнесеныя жалезным ланцугом. Побач з абеліскам – мемарыяльная пліта з імёнамі і прозвішчамі сямі вайскоўцаў.

Вельмі засмучае той факт, што воінскаму пахаванню польскіх жаўнераў да цяперашняга часу не прысвоены адпаведны статус. У адрозненне ад помніка ў Крывічах, на абеліску ў Мядзеле адсутнічае адпаведная шыльда.

Пры пераадоленні зараснікаў мы знайшлі яшчэ тры аднатыпныя крыжы, раскіданыя ў розных месцах могілак, цалкам ідэнтычныя з крыжамі польскіх жаўнераў. Крыжы старыя, парослыя мохам. Паколькі часу практычна ўжо не заставалася, вырашылі ў перспектыве вярнуцца на могілкі.

### Падарожжа скончылі ў Нарачы

Нарачанская пушча – месца дыслакацыі слаўнай брыгады «Кміціца» Арміі Краёвай. Пасля развалу СССР, стараннямі **Барыса Львова** і **Лешака Бэднарчука** тут усталявалі шасціметровы бетонны крыж. Цяпер размешчаная запаведная зона Нацыянальнага парку «Нарачанскі». Несанкцыянаванае наведванне запаведнай зоны пагражае штрафнымі санкцыямі.

Сляды польскай дзяржаўнасці можна адшукаць у іншым месцы паблізу. Сапраўдным аазісам польскай цывілізацыі з'яўляецца тэрыторыя вакол касцёла святога Андрэя ў Нарачы (Кабыльніку). Каля касцёла ўжо больш за 25 гадоў устаноўлены металічны крыж з таблічкай, прысвечанай памяці пятай Віленскай брыгады АК.

За гэты час сам крыж ператварыўся ў гістарычны артэфакт і знаходзіцца пад патранатам біскупа **Кандрусевіча**. На прыкасцельнай тэрыторыі таксама знаходзіцца магіла ксяндза **Паўловіча**, які загінуў пакутніцкай смерцю ў 1943 годзе. Ён быў закатаваны за тое, што асвячаў сцяг брыгады «Кміціца». У цяперашні час вырашаецца пытанне па ўстаноўцы памятнай шыльды на касцёле ў гонар **Марыі Качыньскай**, жонкі аднаго з прэзідэнтаў Польшчы – **Леха Качынскага**.

**Вадзім ПРАЎРАЦКІ,**
**Мядзел.**

## КАЛЯНДАР

### 6 ЛІПЕНЯ

**230 гадоў** з дня нараджэння **Даменіка Манюшкі** (1788, Міншчына (?) – 1848) асветніка, філантропа.

**1985.** Памёр **Пятро Сакол** (сапр. Пётр Масальскі), паэт, перакладчык. Член культурна-асветнага таварыства «Бацькаўшчына» і «Таварыства беларускіх вучыцеляў» у Латвіі. У 1928 за ўдзел у левым радыкальным руху пазбаўлены права выкладання, жыў пад наглядам паліцыі. У час нацысцкай акупацыі ў 1942-44 карэктар-перакладчык часопіса «Новы шлях». Складаў картатэку беларуска-латышскага слоўніка. Арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1945. У 1945-47 праходзіў «фільтрацыю» ў Хабараўскім краі, у Ніжнеамурскім папраўча-працоўным лагеры МУС СССР. Вярнуўся ў Рыгу ў сакавіку 1947. Працаваў рабочым. Друкаваўся з 1923. У Люцынскай беларускай гімназіі выдаваў на шапірографе штомесячнік вучнёўскай творчасці і фальклорных запісаў «Ластаўка» (выйшлі 9 нумароў). Асабісты архіў захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў Мінску. Нарадзіўся ў 1905 годзе.

### 7 ЛІПЕНЯ

**1633.** 385 гадоў назад памёр **Леў Сапега**, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Пахаваны ў крыпце касцёла святога Міхала (Вільня).

**1864.** У Маладзечне адкрылася настаўніцкая семінарыя.

**1882.** Нарадзіўся Янка Купала, народны паэт Беларусі.

### 8-10 ЛІПЕНЯ

**25 гадоў назад** (1993) у Мінску адбыўся І з'езд беларусаў свету.

### 11 ЛІПЕНЯ

**1918.** 100 гадоў з дня заснавання Беларускага народнага ўніверсітэта. Існаваў у Маскве да жніўня 1918 года. Арганізаваны культурна-асветным аддзелам Беларускага нацыянальнага камісарыята. Заняткі наведвалі пераважна школьныя настаўнікі з Беларусі, бежанцы з тэрыторыі, акупаванай германскімі войскамі. Частка прачытаных лекцый выдадзеная пад назвай «Курс беларусазнаўства» (1920).

### 12 ЛІПЕНЯ

**485 гадоў** з дня нараджэння **Антонія Пасевіны** (Пасевіна, 1533 – 1611), дыпламата, тэолага, педагога, аднаго з ініцыятараў падрыхтоўкі Брэсцкай уніі 1596 года.

**1913.** Нарадзіўся **Уладзімір Голасаў** (мястэчка Ілья), праваслаўны святар, вязень ГУЛАГу. Загінуў пасля 1944 года ў савецкім канцлагеры.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# Гран-пры «Адной зямлі» заваяваў Вадзім Авіжыч з Ашмянаў

## Наступны раз сустрэнемся ў Маладзечне

ВІЛЕЙКА

**Гран-пры конкурсу «Адна зямля», які прайшоў у мінулую суботу, заваяваў Вадзім Авіжыч з Ашмянаў.**

Прыз глядацкіх сімпатый ад «Рэгіянальнай газеты» дастаўся **Уладзіміру Савіцкаму** са Смаргонскага раёна.

Першыя месцы ў чатырох узроставых групах занялі:

**Арцём Скароль**, Ашмянскі раён (8-13 гадоў), **Валерыя Барабанава**, Маладзечанскі раён (14-17 гадоў), **Марыя Субач**, Маладзечанскі раён (18-23 гады), **Дзмітры Маркевіч**, Вілейскі раён (24-31 год).

Гэта быў 20, юбілейны, фестываль, які штогод па чарзе сустракае адзін з раёнаў нашага рэгіёна – Павілля.

Ідэя фэсту ўзнікла ў тагачасных кіраўнікоў раённых аддзелаў культуры Маладзечаншчыны, Ашмяншчыны і Валожыншчыны **Аляксандра Рамановіча**, **Галіны Балінскай** і **Сяргея Шаблыкі**. Аляксандр Рамановіч быў сярод запрошаных гасцей 20-й «Адной зямлі».

Аляксандр Віктаравіч у гутарцы з карэспандэнтам «РГ» сказаў, што ўзровень мерапрыемства сёння, безумоўна, больш высокі, чым на самым пачатку. Да яго рыхтуюцца штогод дзясяткі маладых людзей у кожным з сямі раёнаў рэгіёна, каб вынесці сваю творчасць на прысуд журы і гледачоў.

Сёлетнія планы зламала надвор'е. Дакладней, яго прагноз. Пасля выступлення першай узроставай групы арганізатары прынялі рашэнне перанесці конкурс у сцены Палаца культуры.

– Зразумела, што больш спакойна і камфортна выступаць у сценах, – пракаментаваў нам гэта рашэнне той самы Рамановіч. – З іншага боку, гледачоў туды прыйдзе вобмаль. Адкрытае паветра збірае больш.

Чарговай сталіцай «Адной зямлі» стане Маладзечна. Сімвалічны глобус свята з рук у рукі перадаў начальнік аддзела ідэалогіі і культуры Вілейскага райвыканкама **Сяргей Паўлоўскі** кіраўніцы дэлегацыі з Маладзечна **Іне Ахполавай**.

Мікола ГАЙДУК.
Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



Гледачы, якіх не спужала надвор'е.



Арцём Скароль.



Валерыя Барабанава.



Марыя Субач.



Дзмітры Маркевіч.




Кіраўнік маладзечанскай дэлегацыі Іна Ахполава прыняла глобус «Адной зямлі» з рук Сяргея Паўлоўскага, начальніка аддзела ідэалогіі і культуры Вілейскага райвыканкама.

# «Некаторыя адмаўляліся, таму што фільм пра яўрэяў»

## У Маладзечне паказалі аматарскі фільм пра яўрэйскую культуру ў беларускім мястэчку

МАЛАДЗЕЧНА

**28 чэрвеня ў Маладзечне адбылася прэм'ера барысаўскай кінастужкі Наты Голавай і суполкі «МыЗаТанцы» «Чароўныя нажнічкі». Прымаў паказ маладзечанскі этнаграфічны клуб KOLA.**



Фота забяспечанае Воляй ТРУБАЧ.

Кадр з фільма «Чароўныя нажнічкі».

Гэта была прэм'ера фільма пра яўрэйскую культуру на аснове яўрэйскіх казак. Чорна-белы фільм з тытрамі агучвала капэла «Жыдовачка». Пасля паказу патанцавалі яўрэйскія танцы.

Мы звярнуліся з пытаннямі да рэжысёра **Наты Голавай.**

**– Чаму кіно пра яўрэяў?**

– Ніхто не чапляецца да рэжысёраў «А чаму тваё кіно пра праваслаўных?». Ці пра рускіх, немцаў. Яўрэі падаюцца незразумелымі іншапланецянамі, пра якіх няшмат ведаюць, таму не любяць і баяцца. Былі сітуацыі, калі людзі адмаўляліся ўдзельнічаць у праекце менавіта праз тое, што ён яўрэйскі. Часта атрымліваю рэкамендацыі тыпу «Вы няправільна назвалі капэлу, мусіце звацца не «Жыдовачка», а «Евреечка». Запытваю, чаму гэта? Наш любімы беларускі традыцыйны танец у клубе – «Жыдовачка». І другі любімы – «Жыдок». І трэці – жыдоўская полька. Чаму нам так не звацца? Гэтыя сітуацыі даюць упэўненасць, што яўрэйскае кіно трэба здымаць. І не адно.

**– Як складалася атмасфера фільма? Дзе адбываліся здымкі?**

– Сцэнар «Чароўных нажнічак» напісаны паводле прачытанай сотні яўрэйскіх казак. Там былі і зусім старадаўнія сюжэты, і магічныя гісторыі пачатку 20 стагоддзя пра беларускія мястэчкі. Выбрала асноўныя элементы, уласцівыя яўрэйскім казкам. Сачыніла гісторыю пра беднага краўца, якому з неба звалілася і шчасце, і выпрабаванні. Гэта, па маіх назіраннях, нармальная сітуацыя для жыдоўскай казкі, дзе не адсочваецца прычынна-выніковыя сувязі. Герой атрымлівае цуд ці катастрофу ў жыцці проста так. Проста таму, што ён жыд, напэўна. Сцэнар пісаўся з улікам даступных лакацый, інтэр'ераў, мэблі, рэквізіту. І мясцовых артыстаў. Дзякуй богу, у Барысаве, які больш чым напалову да рэвалюцыі быў жыдоўскім, месцамі захавалася характэрная тагачасная архітэктура, атмасферныя дворыкі ў старой частцы горада. Не ўсё яшчэ сапсаванае сайдзінгам і ўсялякай «прыгажосцю».

**– Як ты падбірала акцёраў? Галоўны крытэрый – быць яўрэем?**

– Герой на экране мусіць быць тыпажным. Ён жа не іграе запар дзве гадзіны сваю ролю, як у тэатры. І няма адлегласці, як паміж сцэнай і залай. Глядач убачыць, злавіў вобраз – і паехалі. Астатняе дапрацоўваюць драматургія, ракурсы, мантаж. Галоўныя героі – з вуліцы. І яны ніздрэнна справіліся з задачамі. Як і многія праекты, што грэюць мне душу, гэта напалову аматарскі праект, і цікава было назіраць, як цягам двух-трох тыдняў звычайныя людзі набіраліся акцёрскіх навыкаў. А што тычыцца «яўрэйскага» выгляду персанажаў, у мяне ёсць падазрэнне, што ўсе людзі ў наших мясцінах трошкі жыды. Проста многія і не трошкі.

**– Пагаворваюць, што ў фільма не было фінансавання. Як жа атрымалася зняць фільм?**

– Грошай у чыстым выглядзе не было. Я нешта выдаткавала, мо, якія 100 ці 150 рублёў на розныя патрэбныя для працэсу рэчы. Увесь бюджэт – асабісты час і навыкі ўдзельнікаў, паліва, аўто, строі, рэквізіт. Кожны прынёс тое, што змог. Час – самы дарагі ўнёсак. Былі здымачныя дні, якія цягнуліся і па 20 гадзін. І дзякуй цэнтру творчасці дзяцей і моладзі, пры якім існуе наш клуб гістарычнага танца, што дазволіў скарыстацца памяшканнем, дзе здымалася шмат сцэн і месцілася «кінабаза» з усім здымачным барахлом. Тэатр «Відарыс» таксама дапамог і пляцоўкай, і рэквізітам, і святлом, і касцюмамі. І мясцовы тэлеканал СКІФ дазволіў запісаць саўндтрэк для трэйлера ў сваёй студыі, а **Леў Машкетаў** вазіўся з запісам, бо мы яшчэ толькі-толькі вучыліся іграць разам і трэба было, каб больш-менш прыстойна гучалі. Таму, я кажу – МЫ зрабілі кіно. Так, гэта мая ідэя і мой сцэнар, і мая прапанова суполцы паўдзельнічаць у чарговай авантуры. Але ў праект уклалася шмат людзей.

**– Чаму і каму ты параіш паглядзець гэта кіно?**

– Сваёй настаўніцы па рускай мове і літаратуры, што выкладала ў 5-7 класе. Помню, як атрымала сшытак з адзнакай за сачыненне на тэму «Как я провела лето» і прачытала пасланне чырвонага колеру ад яе: «По-моему, ты всё списала!». Гэта было першае і дагэтуль апошняе абвінавачванне ў плагіяце. Было крыўдна, бо пачуцці, з якімі пісала тады школьную працу, тыя ж, з якімі ствараліся цяпер «Чароўныя нажнічкі». А больш я нікому нічога раіць не хачу, магу толькі запрасіць усіх, хто гатовы паглыбіцца на гадзіну ў музыку і атмасферу жыдоўскага мястэчка. Якім мы яго бачым.

**Алег ІВАНОЎСКІ,**
**ён жа Шмулік.**

**Водгук наведніка паказу інжынера Алега Чырыцы:**

**– Фільм выбіваецца з бясконцага шэрагу кіно неардынарнасцю. Але, нягледзячы на незвычайнасць, ён прымусіў мяне паверыць акцёрам і створанаму рэжысёрам свету. Атмасфера – гэта тое безумоўнае, чым прывабліване кіно. За гадзіну я паспеў палюбіць і Шмуліка, і Рэбеку, і ўсіх астатніх. І ўсе такія шчырыя, такія сапраўдныя. Усё зроблена вельмі дакладна, вытанчана і з густам. І трэці дзень, калі я еду на працу, у маіх навушніках іграюць яўрэйскія матывы. Дзякуй за гэта капэле «Жыдовачка», і дзякуй велізарны Наце Голавай за гэта прэўкраснае чарадзейства!**



Фота забяспечанае Воляй ТРУБАЧ.

Рэжысёр Ната Голава.


Фота: «Ашмянскі веснік».

## «Ашмяны» разбілі «Маладзечна»

**АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА**

Матч адбыўся 30 чэрвеня на ашмянскім полі.

Ашмянцы перамаглі з лікам 6:2.

Галы забілі ашмянцы **Дзяніс Хадаронак**, **Дзмітры Купнеўскі** і па два галы на рахунку **Данабэка Куанышбая** і **Аляксея Скварчэўскага**. З боку гасцей мячы забілі **Аляксей Шчыпаў** і **Алег Страхановіч**.

Па выніках 11 тура другой лігі чэмпіянату Беларусі ашмянцы займаюць другі радок турнірнай табліцы і адстаюць ад лідара «Рух» з Брэста на два ачкі. За імі ідуць мінскія «Крумкачы».

Што тычыцца «Маладзечна», то яны апошнія, 15-я, у гонцы з чатырма ачкамі. Маладзечанцаў апярэджвае гомельскі «Будпрам».

**Аддзел інфармацыі.**

# Смаргонцы правялі турнір па балотным футболе


Фота ФК «Смаргонь».

Гуляць у такой гразі адважацца толькі самыя смелыя футбалісты.

**СМАРГОНЬ, АСТРАВЕЦ**

**У суботу, 30 чэрвеня, Смаргонь прыняла адкрыты турнір па балотным футболе.**

Спаборніцтвы арганізаваў сектар спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама.

У турніры ўдзельнічалі каманды гаспадароў, а таксама з Іўя і Астраўца. Перамаглі астравецкія госці.


Фота ФК «Смаргонь».

## «Смаргонь» прайграла «Нафтану»

**СМАРГОНЬ**

Матч у гасцях 30 чэрвеня закончыўся для смаргонцаў паражэннем 1:0.

Па выніках 13 тура першай лігі чэмпіянату Беларусі «Смаргонь» займае дзясяты радок турнірнай табліцы. «Мядзведзяў» абганяе «Орша».

Наступнае выступленне каманды будзе дома на стадыёне «Юнацтва» 7 ліпеня. Смаргонцы пазмагаюцца з бабруйскай «Белшынай», якая займае трэці радок. Пачатак матча а 18 гадзіне.

## «Вілія» перамагае тры гульні запар

**ВІЛЕЙКА**

1 ліпеня прайшла гульня паміж «Беразіно» і ФК «Вілія». Віляйчане выступалі ў гасцях.

У шостым туры чэмпіянату Мінскай вобласці каманды згулялі з лікам 4:6.

Галы забівалі **Максім Вітко**, **Павел Сільвановіч**, **Міхаіл Цырук**, **Яўген Вярбіцкі**, двойчы **Віктар Сяліцкі**.

Гэта трэцяя перамога «Віліі» запар. Каманда падымаецца на трэці радок у турнірнай табліцы. Цяпер Вілія адстае толькі ад салігорскага «Гарняка» і лідара «Колас» з Чэрвеня.

8 ліпеня «Вілія» прыме дома на гарадскім стадыёне «Лагойск». Пачатак гульні ў 14 гадзін. Уваход свабодны.

## «Чысць» прайграла ў гасцях

**МАЛАДЗЕЧНА**

Каманда змагалася з «Оршай» 30 чэрвеня ў гасцях.

З лікам 5:2 «Чысць» прайграла. Два галы з боку чысцінцаў адправіў у вароты сапернікa **Мікіта Мятліцкі**.

Па выніках 13 тура першай лігі Чысць займае апошні радок у турнірнай табліцы, прапусціўшы светлагорскі «Хімік» і «Баранавічы».

## «Маладзечна» згуляе ў суботу дома

**МАЛАДЗЕЧНА**

Матч у межах другой лігі чэмпіянату Беларусі паміж ФК «Маладзечна» і ФК «СМІ аўтатранс» пройдзе ў суботу, 7 ліпеня.

Пачатак а 19 гадзіне. Уваход на гарадскі стадыён свабодны.

**Дзмітры РУХЛЕВІЧ.**

# Стронгмэны ў Мінску дапамаглі сабраць грошы вілейскім дзеткам

**ВІЛЕЙКА**

**3 ліпеня спартыўна-дабрачыннае свята – міжнародны турнір па сілавым экстрыме – прайшло ў Мінску.**

На спаборніцтвы сабраліся наймацнейшыя стронгмэны з Беларусі і бліжэйшых краін.

Сілачы выконвалі розныя этапы выпрабаванняў. Фіксавалі над сабой штангу не менш за 100 кілаграмаў, неслі прылады вагой 330 ці 400 кілаграмаў, трымалі перад сабой груз і цягнулі за сабой грузавік.

Сярод выступоўцаў былі:

**Руслан Багіраў** (Беларусь) – гэтага вялікага і моцнага спартсмена даўно называюць «Чалавек Гара». Лічыцца наймацнейшым стронгмэнам Беларусі. Можа падняць на біцэпс штангу вагой 180 кг. Абсалютны чэмпіён турніру «MinskOpenCup»-2018.

**Раман Грэкаў** (Украіна) – адзін з наймацнейшых стронгаў з суседняй Украіны, хоць прыйшоў у гэты спорт нядаўна. У активе ў Ромы пад'ём гіганцкай гантэлі вагой 135 кілаграмаў адной рукой.

**Ярос Міндаўгас** (Літва) – удзельнік мноства турніраў па сілавым экстрыме ў Літве і за мяжой. Актыўна прымае ўдзел у турнірах па паўэрліфтынгу.

**Міхаіл Хадзякоў** (Украіна) – пераможца StrongmanOpenChallenge 2016 па выніках усіх этапаў.

**Аляксей Карпіеня** (Беларусь). Малады і перспектыўны стронгмэн, нядаўна прыйшоў у сілавы экстрым, але ўжо паказаў сябе з лепшага боку.

На свяце таксама збіралі грошы на дапамогу дзецям з Навагрудскага і Вілейскага інтэрнатаў, а таксама ў дзіцячы анкацэнтр у Бараўлянах. Дабрачыннае мерапрыемства арганізаваў фонд дапамогі дзецям «Белы бусел».

**Паводле паведамлення фонду «Белы бусел».**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Прылада ў выглядзе лекала, патрона, па якой штампуюцца аднолькавыя па форме, памеру вырабы.
3. Галаўны ўбор, звычайна цёплы і мяккі.
4. Радок або некалькі радкоў, якія паўтараюцца ў канцы кожнага куплета верша ці песні; прыпеў.
7. Пімен Панчанка: «Той … прапаў і страчаны навекі, Калі ты не зрабіў таго, што мог; Калі не паспрыяў ты чалавеку, Няшчыры быў, зманіў, не дапамог».
9. Памяшканне з печчу або плітой для гатавання ежы.
10. Процілеглае злу, ліху.
13. Найлепшы вынік, дасягнуты ў спорце, у працы.
14. Згода, права зрабіць, выканаць.
16. Пашкоджанне, страта.
17. Прагорклы, з непрыемным рэзкім пахам (пра нясвежыя тлушчы).
19. Сцегнавая частка тушы (звычайна свіной).
24. У Іране прадстаўнік гэтай прафесіі стаіць роўна пасярэдзіне ў аб’екце, дзе працуе. Каб падзяліць мужчынскую і жаночую паловы.
25. Беларускі археолаг, ураджэнец Мядзела. Вывучаў Павілле, Панямонне. Даказаў, што Ваўкавыск існаваў на 250 год раней за першую пісьмовую згадку. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі».
27. У Свазілендзе непрыстойна перашкаджаць парламентарыям, калі тыя раяцца з продкамі. Як яны гэта робяць?

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Абход для агляду, разведкі.
5. У адным з мексіканскіх штатаў спрабавалі распрацаваць закон супраць алкагалізацыі. Улады сустрэлі рашучае супраціўленне. У выніку змаглі забараніць толькі адзін від піва, а ў адказ гаспадары бараў абвясцілі забастоўку. Якое піва забаранілі?
6. Частка, якая засталася, не выкарысталася; астача, астатак.
8. Сістэма падземных збудаванняў, дзе здабываюцца падземныя выкапні.
10. Да Другой сусветнай такіх лётчыкаў не бралі на службу ў ВПС ЗША. Але ў 1941 усё змянілася. Ім нават пачалі аддаваць перавагу, таму што яны лепш бачаць замаскіраваныя аб’екты. Якія гэта лётчыкі.
11. Чалавек, які займаецца лоўляй рыбы.
12. У невялікай колькасці; трошкі, нямнога.
15. Дзелавая папера, якая служыць доказам чаго-небудзь ці пацвярджае тое або іншае права.
18. Самі па сабе зазванілі званы ў Маскве ў 1445 годзе. Жыхары вырашылі, што гэта канец свету. Такое ж перажылі кіяўляне ў 1091 годзе, у 1230 – жыхары Уладзіміра. Што сталай прычынай з’явы?
20. Цэнтр сельсавета ў Вілейскім раёне, які размяшчаецца паміж Даўгінаўскім, Крывасельскім і Даўгінаўскім.
21. Адна з самых брудных жывёл. Каб пачысціцца, яны самі сябе абплёўваюць, таму што ў іх сліне ёсць рэчывы, якія забіваюць насякомых і абеззаражваюць іголкі.
22. Чараўнік, знахар у народаў, рэлігія якіх заснаваная на кульце духаў, на магіі.
23. Калі гэты легендарны спартсмен выдаў аўтабіяграфію, то атрымаў медаль ад міністра адукацыі. Многія навучыліся грамаце, толькі каб прачытаць кнігу.
26. Менавіта ён упершыню ўвёў умоўнае абазначэнне пераменных як X, Y, Z. З таго часу так і пайшло.
27. У трапічнай Афрыцы, выпраўляючыся ў начную дарогу, некаторыя жыхары прывязваюць да ног мяшочкі. Што ў іх знаходзіцца?
28. У адным з раёнаў Калумбіі нельга забіць і пачысціць гэту жывёлу без чыноўніка. У іх страўніку могуць быць ізумруды, якія жывёлы спажываюць для паляпшэння стрававання.
29. Прадмет мэблі, звычайна са спінкай, прызначаны для сядзення аднаго чалавека.

## Адказы на крыжаванку з №26

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Мастак. 4. Маліна. 6. Лапата. 7. Маўчаць. 11. Будзільнік. 13. Галька. 14. Гавець. 19. Мантаж. 20. Ласы. 21. Ганчак. 22. Саван. 24. Крыт. 26. Афарызм. 30. Футбол.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Гігант. 3. Рэклама. 5. Алкаголь. 8. Гарнізон. 9. Магутнасць. 10. Лагода. 12. Лакмус. 15. Чалавек. 16. Песня. 17. Лавіна. 18. Княгінін. 21. Гайка. 23. Асалода. 25. Артэрыя. 27. Атлас. 28. Дыван. 29. Мамант.

## ● ГАРАСКОП 6-12 ЛІПЕНЯ

**АВЕН.** Будзьце ўважлівыя, бо цяпер ваш стан такі, што вы не зможаце цвяроза ацэньваць свае здольнасці, сітуацыю і прымаць верныя рашэнні. Але гэта хутка пройдзе.

**ЦЯЛЕЦ.** Навáліцца шмат працы, часам нават будзе здавацца, што гэта вам не пад сілу, але вы справіцеся. І не перажывайце з-за розных дробязяў з-за таго, што яшчэ не адбылося і, магчыма, ніколі не адбудзецца. З лёгкасцю глядзіце ў будучыню.

**БЛІЗНЯТЫ.** У вас праявіцца схільнасць даваць усім парады і ўказваць на тое, як трэба рабіць, а як нельга. Добра, калі людзі самім папросяць у вас парады, а вось навязваць сваё меркаванне, хоць і аўтарытэтнае, усё ж не варта.

**РАК.** Вам трэба закінуць усе справы і звесці да мінімуму ўсю актыўнасць, вам трэба адпачыць. Пашанцавала тым, хто ў адпачынку.

**ЛЕЎ.** Вас чакае эмацыйны ўздым. Гэты час добры для новых пачынанняў, прасоўвання наперад. І трымайце прыкрытым тыл, каб за час вашага падарожжа за марай там нічога не здарылася.

**ДЗЕВА.** Усе дні будуць прысвечаныя менавіта добраўпарадкаванню вашага сямейнага ачага, умацаванню адносін. Вы зможаце цалкам рэалізаваць сябе і свае ідэі, вывесці запланаваныя мерапрыемствы на фінішную прамую і радавацца спрыяльным дням.

**ШАЛІ.** У сваіх учынках вы занадта імклівыя і рэзкія, гэта не дазваляе вам надаць абдумванню і планаванню дастаткова часу. Паспешныя высновы і паспешныя дзеянні могуць прывесці да вынікаў, адрозных ад тых, якія вы разлічвалі атрымаць. Але да ўсяго стаўцеся па-філасофску. У вас атрымаецца закласці падмурак паспяховай будучыні.

**СКАРПІЁН.** Вашу галаву напоўняць свежыя ідэі. Фінансавае становішча пачне паляпшацца, бо менавіта цяпер вы закладзеце падмурак для свайго будучага развіцця ў матэрыяльным плане. Смела рэалізоўвайце вашы ідэі – яны прынясуць поспех. Вядома, знойдуцца і зайздроснікі, якія паспрабуюць адшчыкнуць ад смачнага кавалачка ці хацяб укалоць вас. Але з-за гэтага не варта турбавацца, бо вы будзеце на вышыні.

**СТРАЛЕЦ.** Прыслухоўвайцеся да інтуіцыі, яна шапне вам, што рабіць далей, дзе вы мелі рацыю, а дзе не. І ў вас ўсё наладзіцца.

**КАЗЯРОГ.** Будзьце асцярожныя ў пытаннях, што тычацца дзелавога партнёрства. Вы можаце стаць ахвярай падману. З-за гэтага могуць сур’ёзна пацярпець дзелавая рэпутацыя і матэрыяльнае становішча. Але калі непрыемнасць з вамі ўсё ж адбылася, то памятайце правіла «маланка не б’е двойчы ў адно месца». Выбрацца з праблем і аднавіць справядлівасць вам дапаможа даўні сябар ці калега.

**ВАДАЛЕЙ.** Цяпер вы зможаце вырашыць усе прафесійныя пытанні. Праца будзе прыносіць асалоду. Надзвычай спрыяльна складуцца адносіны са сваякамі, сябрамі, магчымы новыя знаёмствы.

**РЫБЫ.** Вас чакаюць значныя перамены. Зменіцца не столькі жыццё, колькі ваша стаўленне да яго, да падзей, што адбыліся, і да навакольных людзей – а гэта значна больш, што можа падацца з першага разу.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | | | 5 | | 3 |
| 3 | | | 6 | | 2 | | 4 | |
| 8 | | | 9 | | | | | 7 |
| 7 | | 8 | 5 | | | | 3 | |
| | | | | 3 | | 4 | | 8 |
| 4 | | 5 | 2 | 9 | | | | |
| | | | | 2 | | | 7 | 1 |
| 2 | | 1 | | 6 | | | | 4 |
| 9 | | | 1 | | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## ● НАДВОР'Е

### 7 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 / +20 | | +16 / +20 | | +15 / +22 | | +15 / +21 | |
| | 743 | → 6 | 736 | ↘ 5 | 737 | ↘ 5 | 739 | ↘ 4 |
| Вільня | +13 / +21 | | +15 / +20 | | +16 / +21 | | +15 / +18 | |
| | 741 | ↘ 7 | 743 | ↘ 5 | 744 | ↘ 5 | 745 | ↘ 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |


Усход 4.48
Захад 21.46
Даўжыня дня 16.58


Усход 01.21
Захад 14:43
Квадра 4




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +5,4°С у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +31,4°С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 30,7 мм у 2007 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

**● Чаму ў вёсцы Вешкі Вілейскага раёна варта паставіць памятны знак кампазітару і фальклярысту Нестару Сакалоўскаму? Ён аўтар песень на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, а таксама сюіт на тэмы беларускіх народных песень. Запісаў больш за 500 народных песень. Што пра яго расказваюць мясцовыя жыхары, высветлілі краязнаўцы.**

## Прымай сонечныя ванны з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## Віляйчанка Аксана Бічун – «Чалавек сваёй справы»

**У сераду, 4 ліпеня, у Мінску прайшла цырымонія ўшанавання лаўрэатаў конкурсу «Чалавек сваёй справы 2018» – кіраўнікоў айчынных і замежных прадпрыемстваў, якія найбольш дынамічна развіваюцца і якія працуюць на беларускім рынку.**

Сярод найбольш аўтарытэтных беларускіх прадпрымальнікаў і Аксана Бічун, генеральны дырэктар сталічнай турыстычнай фірмы «СОЛВЭКС». Яна адзначаная ў намінацыі «За высокі прафесіяналізм і бездакорную якасць турыстычных паслуг».

Аксана Бічун у свой час скончыла ў Вілейцы сярэднюю школу. Доўгі час працавала ў беларуска-германскім дабрачынным прадпрыемстве «Надзея – 21-е стагоддзе».

Сёлета ў адборы кандыдатаў прынялі ўдзел МЗС, Мінэканомікі, Мінпрам, Мінсельгасхарч, Дзяржваенпрам, Канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў (наймальнікаў), Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва і іншых устаноў і бізнес-супольнасцяў.

**Аддзел інфармацыі, БелТА.**



### ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Званок на тэлебачанне:
– Мой муж паехаў на дачу на ўсё лета. Пастаўце, калі ласка, песню: «Я так хочу, чтобы лето не кончалось...»

***

Які ж гэты чалавек кволы! Стаіш – варыкоз, сядзіш – гемарой, ляжыш – пролежні, кахаеш – інфаркт...



### ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Як можна зарабіць летам?



**Людміла Буркевіч, бухгалтар:**
– Мы збіраем чарніцы і лісічкі. Калі вельмі старацца, можна добра зарабіць!



**Руслан Стэльмах, навучэнец:**
– На рынку. Прадаваць ежу, адзенне. Я сёння першы дзень тут працую. Не ведаю, колькі атрымаецца зарабіць. Планую рублёў 20 на дзень нагандляваць. Буду працаваць тут да канца лета.



**Вольга Злотнікава, прадпрымальніца і танцоўшчыца:**
– Збіраць ягады, грыбы, макулатуру. Уладкавацца на сезонныя работы.



**Сяргей Буханаў, будаўнік:**
– Зарабіць летам варыянтаў шмат. Ягады, грыбы, работы на ўборцы ўраджаю. Можна і на прыватніка працаваць, і ў калгасе. Вельмі шмат прапаноў папрацаваць на прыватных падворках. Хаця з гэтым варыянтам, калі зловіць падатковая, атрымаеш штраф.



**Вікторыя Цярэнцьева, настаўнік фартэпіяна:**
– Збіраць і прадаваць грыбы і ягады. Я гэтым не займаюся, але першае, што прыйшло ў галаву.



**Юры Шылко, слесар-сантэхнік:**
– За мяжой.



**Валянціна Трухнова, пенсіянерка:**
– Зборам ягад, лекавых траў, збываць тое, што вырасла на прысядзібным ці дачным гародзіку. У мяне іван-чай раскупляюць толькі добрыя знаёмыя, на чужых пакуль не хапае. Працы нямала на агародзе за горадам, што там лішак, тое і прадаём.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№27 (1209) 6.07.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 345. Падпісана ў друк у 9.00 5.07.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by .**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.